ДАПАМАГЧЫ ДОБРАЙ РАДАЙ

# ЯК ДОБРА АДПАЧЫЦЬ У ВОДПУСКУ?



*Кс. Павел Салабуда, псіхолаг*

працяг са с. 1

Летнія месяцы дазваляюць большасці з нас усё часцей думаць пра водпуск, а таксама выкарыстоўваць час адпачынку. Некаторыя могуць здзівіцца таму, што не ўсе ўмеюць адпачываць. Існуе вялікая група людзей, для якіх адпачынку можа і не быць, якія лічаць сябе працагалікамі, а гэта, на жаль, ужо залежнасць. Аднак варта памятаць, што паўнавартасны адпачынак павінен прысутнічаць у нашым жыцці.

У сучасную эпоху развіцця тэхналогій, хуткага рытму жыцця, зменлівых рэалій у свеце, абавязкаў і ўзрастаючага стрэсу навокал цяжка расслабіцца і добра адпачыць. Сустракаецца ўсё больш выпадкаў хранічнай стомленасці. Такі стан, перш за ўсё, дрэнна адбіваецца на нашым здароўі і прыводзіць да шматлікіх захворванняў. Калі чалавеку не хапае адпачынку, гэта таксама адбіваецца на псіхіцы: напрыклад, пагаршаецца канцэнтрацыя ўвагі, надакучвае бяссонніца, з'яўляюцца цяжкія эмоцыі, такія як злосць, нецярплівасць і г. д.

Можна аднаўляць сілы па-рознаму, але варта памятаць, што адпачываць павінна і сфера цела, і сфера духу. Многія псіхолагі раяць не планаваць дакладна жаданы водпуск, бо часам найлепшым з'яўляецца падыход "будзь што будзе". Перш чым мы прыступім да планавання водпуску і расслаблення на адпачынку, варта ўзгадаць пра існаванне розных метадаў рэлаксацыі, якія дазволяць нам адпачыць у любы час. У інтэрнэце можна знайсці вялікую колькасць такіх методык. Згадаю некаторыя з іх:

***1. Расслабленне праз дыханне: мозг кожнага з нас мае патрэбу ў кіслародзе. Дзякуючы дыхальнай рэлаксацыі, якая заключаецца ў засяроджванні ўвагі на правільным і поўным паступленні паветра ў лёгкія і выпусканні яго, мы вызваляем розум ад непатрэбных і напружаных думак, а таксама насычаем цела кіслародам.***

***2. Музыка глыбокага сну: перад сном можна ўключыць адмысловую расслабляючую музыку.***

***3. Візуалізацыя: можна ствараць ва ўяўленні карцінкі. Напрыклад, уявіць месца, дзе будзем адчуваць сябе шчаслівa і спакойна.***

***4. Існуюць таксама спецыяльныя практыкаванні, такія як трэнінг Шульца або Якабсана.***

Аднак пра водпуск таксама трэба памятаць. Каб адчуваць сябе спакойна, неабходна ўжо напярэдадні адпачынку крыху супакоіць свой розум, суцішваючыся і пазбаўляючыся ад лішніх эмоцый і раздражняльнікаў. Варта дэлегаваць свае абавязкі людзям, якія Вас заменяць, каб у водпуску Вы не думалі пра тое, як там на працы ці дома. Лепш за ўсё ў час адпачынку не кантактаваць з тымі, хто мае непасрэднае дачыненне да Вашай працы і абавязкаў. Працягласць водпуску таксама важная. Сучасныя даследаванні псіхолагаў пацвярджаюць, што для адпачынку 7-9 дзён не дастаткова, бо арганізм яшчэ не здольны ўмацаваць імунітэт. Паспрабуйце прызначыць на гэтую мэту належную колькасць дзён.

Чарговымі памылкамі, акрамя занадта дакладнага планавання адпачынку, з'яўляюцца таксама злоўжыванне алкаголем, не выпусканне смартфона з рук, разграбанне розных завалаў. Напрыклад, некаторыя бяруць з сабой ноўтбук, каб трохі папрацаваць, але ў водпуску варта адключыцца ад таго, што звязана з прафесійным жыццём.

На адпачынку варта засяродзіцца тут і цяпер, атрымліваць асалоду ад кожнага імгнення, а пасля вяртання з водпуску знайсці час на адаптацыю. У інтэрнэце таксама шмат інфармацыі і ідэй на тэму адпускнога расслаблення. Напрыклад:

***- узяць з сабой добрую музыку або кнігу для прыемнасці,***

***- шпацыраваць без мэты і харчавацца здаровай ежай,***

***- не спяшацца і праводзіць больш часу на свежым паветры і г. д.***

Жадаю ўсім добрага і прыемнага адпачынку. Няхай ён будзе эфектыўным і дадасць сіл і матывацыі, каб ставіць перад сабой новыя мэты ў жыцці. Напрыканцы сваіх разважанняў хацелася б падзяліцца з Вамі трапнай думкай невядомага мне аўтара: "Цела чалавека можа адпачыць на пляжы або ў басейне, розум можа адпачыць падчас чытання добрай кнігі, у кіно ці тэатры, але сэрца можа адпачыць толькі ў Богу".

ЭКАЛОГІЯ СУЖЭНСТВА



***Веранiка Рогач** – каталічка, шчаслівая жонка і маці траіх дзяцей, псіхолаг і сямейны кансультант. Разам з мужам распрацавала і вядзе курс па навучанні сімптатэрмальнаму метаду распазнавання плоднасці. Звярнуцца за інфармацыяй або кансультацыяй можна праз акаунт жанчыны ў Instagram **@veronikarogach** (сямейны псіхолаг).*

# МУЖЧЫНСКІ І ЖАНОЧЫ ПОГЛЯД НА СУЖЭНСКУЮ БЛІЗКАСЦЬ

***У мінулым артыкуле я пачала разважаць пра сужэнскую блізкасць і яе ролю ў адносінах мужа і жонкі. Я казала аб тым, што ў сексуальных адносінах ёсць дзве рэальнасці – адзінства і бацькоўства. Часта здараецца так, што сужэнцы ставяць на першае месца задавальненне, якое непазбежна прыводзіць да непаразумення, недаверу і раздзялення. Мы не можам выкінуць з сужэнскай блізкасці бацькоўства, гэта немагчыма. Гэта шлях кантрацэпцыі, які вядзе ў нікуды. Давайце глыбей паглядзім на блізкасць мужчыны і жанчыны.***

### МУЖЧЫНСКІ ПОГЛЯД

Падыход мужчыны вельмі просты. Можна сказаць, што ён гатовы ў любы момант і днём, і ўначы. У лічаныя секунды ўзнікае ўзбуджэнне, якое потым разражаецца. І гэта заўсёды забяспечвае мужчыну аўтаматычна моцнае задавальненне. Моцнае ўзбуджэнне, якое хутка разражаецца, заўсёды дастаўляе задавальненне.

Нават калі чалавек бяжыць за аўтобусам і паспявае яго дагнаць, ён радуецца. Ясна, што сексуальная напруга ў мужчыны нашмат мацнейшая, чым страх не дагнаць аўтобус. І задавальненне таксама большае. Але механізм падобны. І гэта парадокс: мужчына можа лёгка перажыць сексуальнае задавальненне, і якраз гэта не дазваляе яму ўбачыць сексуальную сферу ва ўсёй паўнаце.

Мужчына не ведае, якія страхі, бар'еры, жаданні, пачуцці ёсць у жанчыны. І даведацца пра гэта можа толькі ад яе. Такім чынам, ключом да сексуальнага поспеху, калі можна так выказацца, з'яўляецца жанчына.

### ЖАНОЧЫ ПОГЛЯД

Блізкасць адбываецца ў жаночым целе. Гэта вельмі важная псіхалагічная падзея – упусціць кагосьці ў сваё цела. І гэта нельга зрабіць у абы-якіх умовах. Ідзём далей.

Жанчына ведае, што можа быць зачатае дзіця, хаця і не абавязкова. І калі гэта здарыцца, то яна будзе выношваць дзіця 9 месяцаў, потым нараджаць, карміць. І яна ўсё жыццё будзе маці дзіцяці, якога вынасіла, нарадзіла і выкарміла. Тут успрыманне шлюбнай блізкасці адрозніваецца.

Мужчына глядзіць на гэта праз прызму некалькіх секунд, а жанчына – заўсёды праз прызму цэлага жыцця. Калі здараецца блізкасць, то, магчыма, жанчына плодная. А калі яна плодная, то можа з'явіцца і дзіця, якому патрэбна маці, але таксама і бацька. Да канца жыцця.

Насамрэч аб якасці сексуальных адносін судзіць не мужчына, а жанчына. І гэтая якасць залежыць ад абставін, якія ёй забяспечаны. Іх можна сцісла абазначыць псіхічным камфортам. Жанчына не павінна нечага баяцца. Давайце паглядзім, што ляжыць у аснове жаночых страхаў. Гэта можна праілюстраваць дзесяткамі прыкладаў. Самы просты, вонкавы, – каб ніхто не падглядаў у акно. Мужчына без праблем можа зразумець, што трэба закрыць шторы, бо па вуліцы ходзяць людзі.

Тым не менш, нават самы разумны мужчына можа не паверыць, што жанчыне замінаюць незакрытыя шторы аж на 15-ым паверсе. Бо яму яны не перашкаджаюць. У гэтым праблема мужчыны. Ён павінен паверыць, што калі жанчыне нешта перашкаджае суб'ектыўна, яно перашкаджае і аб'ектыўна.

Іншая праява жаночага страху ў сувязі з магчымай цяжарнасцю – ці будзе ў дзіцяці бацька на ўсё жыццё. Жанчына мае патрэбу ў такім спакоі. А мужчыны абавязаны гарантаваць гэта сваім жонкам.

Мужчыне варта хаця б раз на тыдзень паўтараць сваёй каханай: "Не ведаю, што ты там прыдумала, але я заўсёды буду тваім мужам. Нават калі ты ўцячэш, я ўсё роўна цябе знайду". Але з практыкі кансультавання мне вядома, як часта мужчыны шантажыруюць жонак разводам. Ім здаецца, што запалохванне прымусіць жанчын паводзіць сябе лепш. А ўсё якраз наадварот. Муж не разумее, што гэта разбурае яго сексуальныя адносіны з жонкай. Бо страх прыносіць вялізную шкоду.

Гэты страх адчуваюць многія жанчыны. Але мужчыны павінны на яго адказаць. І, напэўна, адказ, якога чакаюць усе жанчыны, адзін: "Калі дзіця зачатае, то я як яго бацька не дазволю прычыніць яму шкоду. Нягледзячы на тое, што мы яго не планавалі. Нягледзячы на тое, што лічылі, што нам не патрэбна больш дзяцей. Але калі дзіця зачатае, то я як бацька гарантую яго бяспеку. Нават калі б ты звар'яцела і захацела яго забіць, я гэтага не дапушчу". І тады жанчына можа больш не баяцца.

Не баяцца, што нехта падслухоўвае за сцяной. Не баяцца, што ў дзіцяці не будзе бацькі. Не баяцца таго, што будзе, калі з'явіцца дзіця. Калі гэты страх ліквідаваны, то можна будаваць сапраўды глыбокія сексуальныя адносіны. І гаворка не толькі пра фізічныя адчуванні. Гаворка пра вельмі глыбокія ўзаемаадносіны. І мужчыну гэта цяжка зразумець.

Яшчэ раз паўтару: суб'ектыўны страх жанчыны – гэтая аб'ектыўная перашкода. Калі мужчына не бярэ адказнасць за кожнае зачатае ім дзіця, то жанчына ніколі не дасягне стану поўнага спакою. І тады сексуальная сфера будзе не збліжаць, а аддаляць мужа і жонку, выклікаючы расчараванне.

І тут ёсць магчымасць, якую даюць метады прыроднага планавання сям'і. Магчымасць спакойна і радасна прымаць сваю плоднасць, распазнаваць сваю плоднасць, узгадняць жыццё з натуральным цыклам жаночага арганізма. Без умяшання, без страху. У згодзе з прыродай.

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

## Пасля якога граху можна прыступаць да св. Камуніі, а пасля якога трэба спачатку прыступіць да сакраманту паяднання?

przewodnik-katolicki.pl

*Усе праблемы, якія тычацца нашай веры, шырока і вычарпальна каментуюцца ў Катэхізісе Каталіцкага Касцёла.*

*"Грахі трэба ацэньваць паводле іх цяжару. Адрозненне паміж смяротным грахом і лёгкім, якое ўжо бачна ў Святым Пісанні, было прынята ў традыцыі Касцёла. Досвед людзей яго пацвярджае. Смяротны грэх знішчае ў нас любоў з-за сур'ёзнага парушэння Божага закону; прапануючы чалавеку ніжэйшыя даброты, ён адварочвае яго ад Бога, які з'яўляецца яго канчатковай мэтай і шчасцем. Лёгкі грэх дазваляе любові трываць, хоць крыўдзіць яе і раніць" (ККК 1854, 1855).*

*Смяротны грэх мае месца тады, калі ён адначасова датычыць значнай матэрыі і здзяйсняецца ў поўнай свядомасці і дабравольна. Цяжкасць дадзенай сітуацыі лепш за ўсё вызначаць запаведзі. Яны з'яўляюцца ўказальнікамі, якія даюць нам належнае распазнанне (параўн. ККК 1857, 1858).*

*Варта таксама памятаць, што хрысціянін павінен пастаянна клапаціцца аб чуласці сумлення. Гаворка аб тым, каб не кіравацца выключна запаведзямі. Напрыклад, у запаведзях няма згадкі пра занядбанне дабра. А часам адсутнасць міласэрнасці, дапамогі, аказанай іншаму чалавеку, могуць быць такім жа цяжкім грахом, як той жа крадзеж. Пан Езус неаднаразова перасцерагаў нас ад толькі фармальнай справядлівасці, якая вынікае са строгага захавання правіл. Хрысціянін павінен быць здольны на большае: дабро, міласэрнасць, павагу і дабрыню нават да сваіх ворагаў.*

*Таму, калі Вы робіце рахунак сумлення, прымайце пад увагу не толькі тое, што зрабілі дрэнна. Падумайце, ці не былі цяжкім грахом Ваша абыякавасць і адсутнасць дабрыні. Акрамя таго, лепшае рашэнне – спавядацца, калі пачынаеш сумнявацца, цяжкі быў грэх ці лёгкі. Ужо само тое, што Вы задумваецеся над гэтым, з'яўляецца свайго роду папераджальным знакам і сігналам да ўвагі. У гэтым выпадку добра прадставіць міласэрнаму Богу ў сакраманце паяднання ўсе свае слабасці. Прысутнасць ласкі адпушчэння грахоў умацоўвае нас, каб працягваць змагацца са спакусамі, і дае нам сілы трываць у дабры.*

# ТЫ САПРАЎДЫ ХРЫСЦІЯНІН?

**Чым адрозніваецца жыццё хрысціяніна ад нехрысціяніна? Няўжо толькі паходамі па нядзелях у касцёл ці царкву? Ці святкаваннем Раства і Вялікадня? Або, можа, строгім выкананнем усталяваных прадпісанняў?**

*Бажэна Панасевіч*

Што такое хрысціянства?

Калі прыглядзецца, то ў наш час выразных адрозненняў паміж вернікамі і нявернікамі не ўбачыш. Лад жыцця такі самы. А часам здараецца, што "гэтыя няверуючыя" маюць больш парадак ва ўсіх сферах свайго жыцця: у адносінах, фінансах, кар'еры, адпачынку, здароўі. І выглядаюць яны больш радаснымі і шчаслівымі. Ды і добрыя справы таксама здзяйсняюць. Айцец Мечаслаў Лусяк аднойчы сказаў у сваім разважанні, што такія людзі, не падазраючы, жывуць (могуць жыць) Евангеллем.

"Вы – соль зямлі. Калі ж соль страціць смак, то чым пасоліш яе? Яна ўжо ні на што не прыдасца, хіба што выкінуць яе вон на патаптанне людзям. Вы – святло свету. Не можа схавацца горад, які стаіць на вяршыні гары" (Мц 5, 13–14).

Мы губляем гэтае ўнутранае святло. Гэты маяк любові, спакою, радасці, які прыцягвае, як магніт, іншых, вяртае іх з цемры. Але "хіба можа сляпы вадзіць сляпога? Ці ж не зваляцца абодва ў яму?" (Лк 6, 39).

Хрысціянства – гэта лад жыцця. Напрыклад, калі чалавек выбірае здаровы лад жыцця, ён развіваецца і ўдасканальваецца ў гэтым, спрабуе новыя практыкаванні, рацыён харчавання і г. д., а таксама ўвесь час знаходзіцца ў пошуку і адкрыты на змены. Практыкуючы ўсё, паступова пачынае гэтым жыць.

Хрысціянства – гэта свядомы выбар. Гэта пра жыццё, згодна з высокімі стандартамі. І гэта большая частка працы, інвестыцый: свайго часу, сіл, сродкаў. Гэта таксама адмова ад чагосьці больш прыемнага, магчыма, нават выхад з нейкіх адносін. А яшчэ сталае развіццё і паглыбленне асабістых адносін з Богам, з сабой, з іншымі людзьмі.

На ўсё жыццё не хопіць ведаў, атрыманых на ўроках рэлігіі, якія былі ў дзяцінстве або перад прыняццем сакрамантаў святой Камуніі і канфірмацыі. Пасля іх вялізныя натоўпы "вернікаў" кудысьці знікаюць. Як кажуць студэнты аб экзаменах: "Здалі – забыліся". Паставілі галачкі, што выканалі, і пайшлі жыць "сваё жыццё": праца, сям'я, адпачынак, хобі і г. д. Няма часу. І наша вера спыняецца на хаджэнні ў касцёл ці царкву па нядзелях і на выкананні абрадаў.




А духоўны голад нікуды не дзенецца. Ён узрастае. І калі не даваць правільнай ежы, наш дух можа згаснуць. Бо кожную сувязь з іншай асобай, кожныя ўзаемаадносіны, якія шануеш, трэба забяспечваць клопатам, увагай. А Бог – гэта асоба.

Верыць – гэта выбар. А выбіраць – значыць браць на сябе адказнасць, прымаць наступствы ад сваіх рашэнняў. "І зненавідзяць вас усе за імя Маё. Але той, хто вытрывае да канца, будзе збаўлены" (Мк 13, 13).

Верыць – гэта выбар, каб прызнаць, што ёсць Нехта Вялікі, ад якога ўсё пачалося, гэта выбар, каб мець давер да таго, што ўказаны шлях – самы праўдзівы, і гэта выбар, каб спадзявацца на Кагосьці, чыё імя Усемагутны, чыё імя Я ЁСЦЬ.

Праўда ў тым, што цяжэй за ўсё чалавеку прызнаць, што не ён сам усё вырашае, не заўсёды яго справядлівасць самая сапраўдная. Часта людзі "караюць" сябе за свае слабасці самі і не вераць у любоў, міласэрнасць і прабачэнне для іх.

"Прыйдзіце да Мяне, усе спрацаваныя і абцяжараныя, і Я супакою вас" (Мц 11, 28). "Ён узяў на Сябе немачы нашыя, Ён сам зносіў наш боль" (Іс 53, 4).

Нішто так не аддаляе ад Бога, як уласная самаправеднасць і нешта такое, што мы называем ганарыстасцю, якая можа праяўляцца ў празмерным клопаце аб бліжнім ці ў тым, каб быць для ўсіх добрым і цярпімым. "Няхай будзе слова вашае «так-так», «не-не». А што звыш гэтага, тое ад злога" (Мц 5, 37).

Хрысціянства – гэта пра свабоду. Бо нават сам Бог не навязвае сябе: "Вось стаю каля дзвярэй і стукаю. Калі хто пачуе Мой голас і адчыніць дзверы, увайду да яго і буду вячэраць з ім, а ён са Мною" (Ап 3, 20).

Мы, аддаючы сябе, павінны памятаць: "Калі жадаеш нешта зрабіць для кагосьці, падумай, ці гатовы ты, што табе за гэта не скажуць «дзякуй», а можа, зусім не заўважаць. Калі не гатовы, то не рабі".

У "хрысціянскіх колах" кажуць: "Бог павінен быць на першым месцы". Я б сказала, што Ён мусіць быць у цэнтры. Як рамонак. Пялёсткі – нашы сферы жыцця, якія вядуць да жоўтай сярэдзіны – да Бога. Калі рамонак вяне, пялёсткі адпадаюць. Так у канцы нашага жыцця застанёмся толькі я і Ён.

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

*Кс. Юрый Марціновіч, святар рымска-каталіцкага абраду*

***10 ліпеня – каментарый да Евангелля на XV Звычайную нядзелю** (Лк 10, 25–37)*

### Чалавек з чулым сэрцам

*Прыпавесць пра міласэрнага самараніна паказвае, якім павінна быць наша стаўленне да церпячых бліжніх, да людзей у патрэбе. Нам нельга праходзіць міма іх, абмінаць з абыякавасцю, але трэба спыніцца побач і прыняць канкрэтныя меры.*

*Міласэрны самаранін – гэта чалавек, які спыняецца перад пакутамі іншай асобы. Такое спыненне азначае не цікаўнасць, а гатоўнасць. Гэта чалавек, уразлівы да цярпенняў іншых, чалавек з чулым сэрцам, усхваляваны няшчасцем бліжняга, але расчуленасцю і спачуваннем ён не абмяжоўваецца. Міласэрны самаранін – той, для якога эмоцыі становяцца стымулам да дзеянняў, накіраваных на дапамогу параненаму. Міласэрны самаранін – гэта той, хто дапамагае ў цярпенні і ўкладае ў аказаную дапамогу сэрца і час, а таксама не шкадуе і матэрыяльных сродкаў. Міласэрны самаранін – гэта чалавек, які здольны на такі дар самога сябе. Гэта чалавек, сэрца якога добрае і велікадушнае. Чалавек, які выконвае волю Бога, які больш жадае міласэрнасці, чым ахвяры (параўн. Мц 12, 7).*

*Красамоўная прыпавесць пра міласэрнага самараніна адначасова з'яўляецца адказам Езуса на пытанне: "А хто мой бліжні?" (Лк 10, 29). Бліжні – гэта той, хто захоўвае запаведзь любові, хто праяўляе міласэрнасць. Бог заўсёды жадае ад усіх міласэрнага сэрца, таму што Ён сам міласэрны і добра разумее нашы пакуты, нашы цяжкасці і нашы грахі. Міласэрны самаранін – гэта чалавек, які пераймае Божую міласэрнасць, міласэрнасць да таго, хто мае ў ім патрэбу.*

*Заклік Езуса, скіраваны кніжніку: "Ідзі і ты рабі так" (Лк 10, 37) – з'яўляецца таксама запрашэннем, скіраваным сёння нам. Варта выхоўваць у сабе такую чуласць сэрца, якая сведчыць пра спагаду да церпячага чалавека. Але мы таксама павінны пераўтвараць гэтую чуласць у канкрэтнае дзеянне, каб станавіцца – як той самаранін – людзьмі з міласэрным сэрцам. Няхай бліжэйшыя дні стануць для нас магчымасцю прыняць гэты заклік.*

*А. Андрэй Крот, святар грэка-каталіцкага абраду*

***17 ліпеня – каментарый да першага чытання на XVI Звычайную нядзелю** (Быц 18, 1–10а)*

### Наш "стары запавет"

*Дадзены фрагмент распавядае нам надзвычай маляўнічую гісторыю сустрэчы Абрагама з Богам, які з'явіўся патрыярху ў выглядзе трох мужчын. "Аб'явіўся Госпад Абрагаму каля дубоў Мамрэ, калі той сядзеў пры ўваходзе ў шацёр падчас дзённай спякоты. Абрагам узняў вочы свае – вось тры мужы стаяць насупраць яго" (Быц 18, 1–2). Патрыярх зладзіў для гасцей багаты пачастунак, а напрыканцы сустрэчы атрымаў ад Госпада абяцанне, што праз год будзе мець сына.*

*У візантыйскай традыцыі гэтай гісторыі, як і постаці патрыярха Абрагама ўвогуле, надаецца няшмат увагі. Пра яго сустрэчу з анёламі лаканічна распавядаецца ў Вялікім пакаянным каноне св. Андрэя Крыцкага, якім Усходняя Царква моліцца ў першыя дні Вялікага посту: "Каля Мамбрыйскага дуба патрыярх аказаў гасціннасць анёлам і ў старасці атрымаў узнагароду і абяцанне". Найбольш узгадваецца Абрагам у Нядзелю Праайцоў. Гэта адна з нядзель, якія папярэднічаюць урачыстасці Нараджэння Хрыстовага. Але і тут пра яго гаворыцца як пра аднаго з многіх.*

*Тлумачэннем таму, што такой важнай біблейскай постаці надаецца так мала ўвагі, можа паслужыць трапар Нядзелі Праайцоў: "Вераю Ты праайцоў апраўдаў, прадвясціўшы цераз іх Царкву ўсіх народаў. Радуюцца святыя ў славе, бо з іхняга семя ўзрасла, быццам цудоўны плод, Тая, што без семя нарадзіла Цябе. Малітвамі іх, Хрысце Божа, змілуйся над намі".*

*Стары Запавет – гэта толькі падрыхтоўка да Новага. Патрыярхі, прарокі, праведнікі толькі рыхтавалі прыйсце Хрыста. Яны сталі зямнымі продкамі Багародзіцы. Вера патрыярхаў сталася правобразам веры для нас, якія сёння атрымліваем збаўленне не дзякуючы прыналежнасці да пэўнага народа, а дзякуючы асабістаму выбару. Таму ўсе station запаветныя героі павінны кіраваць наш позірк на Хрыста.*

*Кожны з нас таксама мееў свой "стары запавет" – час, у які мы яшчэ не ведалі Хрыста, але шукалі Яго. Гэты час рыхтаваў нас да сустрэчы са Збаўцам. Падзякуем Богу за яго. І распачнём сапраўднае жыццё – жыццё з Хрыстом, пад апекай Яго Маці, жыццё ў Царкве.*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЯНУ КУЧЫНСКАМУ

*з нагоды імянін, дня нараджэння і чарговай гадавіны святарскага пасвячэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў: сапраўднай радасці і светлай надзеі, здароўя, шчырых і сумленных людзей на жыццёвым шляху, міласэрнасці і велікадушнасці, поспехаў, нязгаснага душэўнага цяпла ў складаным святарскім служэнні. Хочам падзякаваць Вам за разуменне, мудрасць і цярплівасць, шчырую малітву, чулае і добразычлівае сэрца, за апеку і клопат пра нас і нашу святыню, а таксама за ўмацаванне нас у веры і любові да Бога. Няхай Езус падтрымлівае Вас у кожнай справе, Найсвяцейшая Маці Божая Кангрэгацкая заўсёды будзе побач з Вамі, дапамагае ў цяжкія хвіліны сваёй мацярынскай любоўю і клопатам, Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі, Анёл-ахоўнік заўсёды будзе побач, а святы апякун заступаецца за Вас, выпрошваючы ў Пана патрэбныя ласкі.*

*З малітвай апостальства "Маргарытка" парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне і малітоўная група Маці Божай Кангрэгацкай*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ УЛАДЗІМІРУ АКСЕНЦЬЕВУ

*з нагоды імянін ад усяго сэрца жадаем, каб здароўе было моцным, жыццё – доўгім, творчыя сілы – бясконцымі, а радасць – штодзённай. Няхай Вас заўсёды асвячаюць прамяні Божай міласэрнасці, моц Святога Духа, апека Панны Марыі, а Езус адорвае сваімі ласкамі. Няхай любоў і спакой заўсёды ясненюць у сэрцы.*

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Лядска*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ АНТОНІЮ КАЗЛОЎСКАМУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, цярплівасці, стойкасці ў жыцці, душэўнага супакою, нястомнасці ў душпастырскай паслузе, а таксама апекі Маці Божай і святога заступніка. Няхай усё Ваша жыццё будзе напоўнена Божым святлом, любоўю і супакоем.*

*Вернікі в. Малінавая*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ПАЎЛУ УРБАНУ

*з нагоды імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, сілы, мудрасці і цярплівасці на святарскім шляху. Няхай святы заступнік штодзённа Вамі апекуецца, а Маці Божая ахінае Вас сваім мацярынскім плашчом. Дзякуем за шчырыя малітвы, адкрытае сэрца, дабрыню, цярплівасць і клопат пра людзей ды касцёл.*

*Касцёльны камітэт і парафіяне касцёла Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў Парэччы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ БЕЛАНОСУ

*з нагоды імянін і 23-яй гадавіны святарскага пасвячэння шчыра жадаем моцнага здароўя і радасці на кожны дзень. Няхай Езус Хрыстус, які паклікаў Вас на святарскі шлях і даверыў выкананне такой адказнай паслугі, адорыць шчодрымі ласкамі і блаславеннем. Няхай Маці Божая атуляе Вас сваім плашчом, а святы заступнік апекуецца ў кожную хвіліну жыцця.*

*Вернікі парафіі Макараўцы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ВІТАЛІЮ ЧУРГАНУ

*з нагоды 15-ай гадавіны паслугі ў парафіі ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, поспехаў у святарскім служэнні, людской зычлівасці і апекі нашай Нябеснай Маці. Дзякуем Вам за шчырую малітву і добрае сэрца.*

*Вернікі парафіі Перамянення Пана ў Юрацішках*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЗЯНОНУ РАМЕЙКУ

*з нагоды імянін і дня нараджэння складаем букет сардэчных пажаданняў. Няхай усемагутны Бог і Божая Маці заўсёды маюць Вас у сваёй апецы, Святы Дух умацоўвае на добрыя і годныя справы, Хрыстос з любоўю прытуляе да свайго сэрца, а мы будзем падтрымліваць Вас сваёй малітвай. Жадаем добрага здароўя, радасці і душэўнага супакою, стойкасці ў складаных жыццёвых сітуацыях, а таксама мноства нагод для ўсмешкі, бо Ваша ўсмешка робіць гэты свет лепшым. Дзякуем Вам за паслугу, за супольную малітву, мудрыя навучанні, добрае сэрца і зычлівасць да кожнага чалавека.*

*Ружанцовыя колы і члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Астрыны*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРЭЛАТУ ВІНЦЭНТУ ЛІСОЎСКАМУ

*з нагоды імянін і дня нараджэння прагнем скласці сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў і толькі шчаслівых хвілін. Жадаем шмат радасці ў душпастырскай паслузе, а таксама сілы для рэалізацыі планаў і намераў. Няхай усе людзі, якіх сустракаеце на сваім святарскім шляху, адорваюць Вас дабрынёй і зычлівасцю, а ўсемагутны Бог няхай спасылае на Вас свае шчодрыя дары.*

*Вернікі парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Лідзе*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

## Паважаныя Чытачы!

Падтрымаць газету матэрыяльна ці даслаць ахвяраванне за віншаванне можна шляхам электроннага паштовага перавода на адрас рэдакцыі: ***230025 г. Гродна, вул. К. Маркса, 4 – на імя кс. Марціновіча Ю. Т.***

*Ваша падтрымка вельмі важная для газеты. Аддзяч Вам, Божа!*

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

У выдавецтве Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі "Pro Christo" падрыхтаваны каляндар на 2023 год, прысвечаны святым і блаславёным, лёс якіх звязаны з нашай краінай.

У прадмове да календара Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Юзаф Станеўскі напісаў: "Калі Бог будзе знаходзіцца ў цэнтры нашай увагі, тады кожны наш звычайны ўчынак будзе мець сэнс".

Старонкі календара ўпрыгожаны выявамі святых і блаславёных, змешчаны малітвы да іх. У календары пададзены ўсе абавязковыя святы і ўрачыстасці, успаміны святых і блаславёных, якія адзначаюцца ў Каталіцкім Касцёле, а таксама асноўныя даты праваслаўных святкаванняў.




**рэлігійны часопіс**

Малітва патрабуе адпаведнага месца. Езус, заклікаючы да малітвы, кажа: "Ты, калі молішся, увайдзі ў пакой свой і, зачыніўшы дзверы, маліся да Айца твайго, які ў таемнасці" (Мц 6, 6). На час малітвы неабходна адарвацца ад свету, а для гэтага трэба мець ціхае, святое месца. Мэта – падыхаць цішынёй, каб вярнуць спакойны рытм сэрца, падмацаванага прысутнасцю Бога.

У звычайных умовах найчасцей гаворка ідзе пра ціхае святое месца ў кватэры. У намаганні трэба знайсці месца для размовы з Богам. Справа ў тым, каб накіраваць свой твар у той бок, дзе будзе найменш розных спраў і рэчаў, якія могуць дэканцэнтраваць нашу ўвагу.




**беларуская рэдакцыя**

У Ватыкане рыхтуецца да выдання L'Osservatore di strada, якая будзе мець фармат "вулічнай газеты". Мяркуецца, што газета, якая будзе з'яўляцца ў першую нядзелю кожнага месяца як у электронным, так і ў друкаваным фарматах, стане голасам тых, хто звычайна не мае магчымасці выказацца. Спецвыданне L'Osservatore Romano хочуць рыхтаваць разам з беднымі. Яно дасць магчымасць рэалізавацца тым, хто мае талент пісаць ці маляваць, хто хоча распавесці гісторыю або выказаць сваё меркаванне.

У першы нумар увойдуць, між іншым, матэрыял, прысвечаны рымскаму бяздомнаму Міма і яго гісторыі, артыкулы пра мігрантаў і валанцёрства, а таксама кароткія апавяданні.




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

Дыякан Міхаіл Радзевіч SDB прыняў прэзбітэрскае пасвячэнне ў смаргонскай парафіі св. Міхала Арханёла. Удзяліў пасвячэнне арцыбіскуп-эмерыт Тадэвуш Кандрусевіч.

У гаміліі іерарх адзначыў, што гэтая падзея сведчыць аб вялікай міласэрнасці Бога да нас, бо яшчэ трыццаць гадоў таму на гэтым месцы не было ніводнага святара, а касцёл быў зачынены. Зараз жа тут служыць цэлая салезіянская супольнасць і яшчэ адзін сын смаргонскай зямлі мае ласку далучыцца да працаўнікоў на ніве Панскай.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч**;
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**.
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4**; тэл. **(80152) 61-05-37**; **(8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ААТ "Брэсцкая друкарня"**, 224013 Брэст, прасп. Машэрава, 75; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.